*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 11(119) ◈ 17 сакавіка 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***У МІНІСТЭРСТВЕ ІНФАРМАЦЫІ** адбылася нарада з удзелам прадстаўнікоў АН Беларусі, міністэрстваў адукацыі, культуры, абароны, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Рэспубліканскай тэрміналагічнай камісіі, Беларускага гуманітарнага адукацыйна-культурнага цэнтра, а таксама шэрагу выдавецтваў і выдавецкіх арганізацый. Былі разгледжаны пытанні стварэння і выдання тэрміналагічных слоўнікаў, узгоднены намаганні ў паспяховым выкананні «Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь».*

◆

**ДЭЛЕГАЦЫЯ БНФ** у складзе З. Пазьняка, Г. Сямдзянавай, Л. Баршчэўскага, Ю. Хадыкі і В. Івашкевіча правяла шэраг сустрэч з насельніцтвам заходніх раёнаў Беларусі. Пры поўных залах гаворка ішла аб палітычным становішчы ў краіне, зямельнай рэформе і эканамічных перспектывах нашай дзяржавы.

◆

***З'ЯВІЛІСЯ НОВЫЯ ПРАВІЛЫ ПАСТУПЛЕННЯ У ВНУ БЕЛАРУСІ.** Так, замежныя студэнты змогуць атрымаць адукацыю ў РБ толькі па лініі эквівалентнага абмену з навучальнымі ўстановамі адпаведнай дзяржавы ці на падставе аплаты вучобы. Грамадзяне Беларусі, якія паспяхова здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсу, за пэўную плату змогуць цяпер вучыцца ў ВНУ звыш ліміту. Усе ВНУ абавязаны ўключыць у конкурсную праграму здачу экзаменаў па беларускай мове і літаратуры. Праўда, прыёмныя камісіі маюць права вызначаць парадак здачы ўступных экзаменаў для асоб, якія не былі атэставаны па беларускай мове. Словам, «дэмакратыя», і зноў у беларускіх ВНУ будуць вучыцца студэнты, якія не валодаюць дзяржаўнай мовай.*

◆

**СТАРШЫНЯ ВС СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ НАКІРАВАЎ ПРЫВІТАЛЬНЫ АДРАС** і пажадаў поспехаў вучоным рэспублікі, што бралі ўдзел у рабоце Беларускага цэнтра сацыялагічнага і палітычнага прагнозу. Цэнтр выпусціў першы нумар «Аналитического бюллетеня». На рускай мове.

◆

***ЗА МІНУЛЫ ГОД АКАДЭМІЮ НАВУК БЕЛАРУСІ** пакінулі больш за 200 кандыдатаў навук, а на іх месца прыйшло — 80.*

◆

**ЦЯПЕРАШНІ ФАКУЛЬТЭТ ЖУРНАЛІСТЫКІ БДУ Ў ХУТКІМ ЧАСЕ НАБУДЗЕ СТАТУС САМАСТОЙНАЙ НАВУЧАЛЬНАЙ УСТАНОВЫ.** Будучы Беларускі інстытут журналістыкі плануе адкрыць 4 факультэты: рэпарцёрскі — з 3-гадовым тэрмінам навучання, аналітычнай журналістыкі — 5 гадоў навучання, завочны і факультэт прафесійнага ўдасканалення.

*75 гадоў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі*

# ШЛЯХ ДА ВОЛІ

***Мой суразмоўца — Валянцін Мазец, малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь рыхтуе дысертацыю «Беларуская Народная Рэспубліка (1918 год)» і шмат працуе ў архівах. Там ён знайшоў дакументы, якія пацвердзілі адрасы памятных мясцін, звязаных з дзейнасцю беларускіх нацыянальных арганізацый у 1918 годзе. Прыкладам, Народны сакратарыят Беларусі быў утвораны ў былым Доме губернатара, дзе цяпер будынак музычнага ліцэя. Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана незалежнай 25 сакавіка 1918 года ў будынку былога Сялянскага пазямельнага банка, які знаходзіўся на вуліцы Захараўскай, д. № 43 (цяпер вуліца Валадарскага, дом каля крамы «Мужчынскае адзенне», дзе кафэ «Чабурэчная»).***

**— У выніку падзелу Рэчы Паспалітай перастала існаваць і самастойная частка гэтай федэратыўнай дзяржавы — Вялікае княства Літоўскае. Прайшло стагоддзе татальнай русіфікацыі, змяніліся тры пакаленні. Здавалася б, за гэты час павінны былі знікнуць не толькі наша мова, але і ўспаміны пра былую веліч, пра нашу дзяржаву. Ды не! У 1918 годзе абвяшчаецца незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Як Вы мяркуеце, якую падзею можна лічыць пачаткам?**

— Гэта вельмі складанае пытанне. Але, відаць, адраджэнне беларускай дзяржаўнасці было пачата ў час паўстання 1863—1864 гадоў пад кіраўніцтвам Канстанціна-Вікенція Каліноўскага. Заклік адрадзіць сваю ўласную беларускую дзяржаву, незалежную ад Расійскай імперыі, прагучаў у «Мужыцкай праўдзе». Другой важнай падзеяй, якая спрычынілася да акта 25 сакавіка 1918 года, несумненна, было стварэнне і дзейнасць у 1903 годзе Беларускай Сацыялістычнай Грамады на чале з братамі Луцкевічамі, В. Іваноўскім, А. Уласавым, А. Пашкевіч. Гэтай арганізацыяй выпускалася газета «Наша Ніва», якая дапамагала ўзняць самасвядомасць беларускага народа на якасна новую ступень.

**— Якім быў беларускі нацыянальны рух напярэдадні Першай сусветнай вайны?**

— Тады ўся ўвага дзеячаў беларускага руху была звернута на нацыянальна-культурную працу. Свядомыя беларусы былі згуртаваны вакол БСГ. Цэнтрам беларускага нацыянальнага руху была ў той час Вільня.

**— Нямецка-расійская вайна разарвала фронтам Беларусь на дзве часткі. Нацыянальны рух развіваўся па абодва бакі лініі фронту?**

— З пачаткам Першай сусветнай вайны беларускі нацыянальны рух найбольшае развіццё атрымаў у зоне нямецкай акупацыі. Ва ўсходняй частцы Беларусі значных палітычных арганізацый не было да пачатку 1917 года. А вось рух на акупаванай тэрыторыі набывае палітычны характар. Прадстаўнікі беларускіх, літоўскіх, яўрэйскіх і польскіх арганізацый апублікавалі 19 снежня 1915 года «Універсал Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага», у якім заявілі, што яны «прыступілі да ўтварэння канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага». На пачатку 1916 года быў утвораны Цэнтральны саюз беларускіх нацыянальных грамадскіх арганізацый. Гэты саюз спрабуе вынесці беларускае пытанне на міжнародную арэну. На III канферэнцыі народаў у Лазане ў чэрвені 1916 года прадстаўнікі саюза выказалі спадзяванне, «што народы Еўропы дапамогуць забяспечыць Беларусі ўсе палітычныя і культурныя правы... і што гэтыя правы дазволяць нам быць гаспадарамі на ўласнай зямлі». У 1916 годзе паўстаў у Вільні Беларускі Настаўніцкі Саюз.

Сярод беларускіх арганізацый нямецкай зоны акупацыі да пачатку 1918 года пераважала ідэя беларуска-літоўскай дзяржавы, якая мела складацца з дзвюх аўтаномных частак — беларускай і літоўскай.

**— У сакавіку 1917 года быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт, замест якога праз 4 месяцы ўтварылася Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый. А ў кастрычніку — Вялікая Беларуская Рада. Гэтыя перайменаванні былі выкліканы зменамі, тактычнымі ці ідэалагічнымі, або асабовым складам гэтых радаў?**

— Тады цэнтр беларускага руху перамясціўся з Вільні ў Менск. 25—27 сакавіка ў Менску адбыўся з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый. Быў створаны Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК), які ўзначальваў Раман Скірмунт. 5—6 жніўня замест БНК была створана Цэнтральная Рада беларускіх арганізацый, якая аб'яднала прадстаўнікоў 23 беларускіх арганізацый. Вядучую ролю іграе БСГ.

У кастрычніку 1917 года прадстаўнікамі беларускіх арганізацый была створана Вялікая Беларуская Рада, на з'ездзе беларусаў-вайскоўцаў была абрана Беларуская Цэнтральная Вайсковая Рада. Раман Скірмунт быў даволі вядомай асобай — буйны землеўласнік. Таму гэты факт мог адмоўна паўплываць на адносіны сялян да нацыянальнага руху. Зменлівыя абставіны патрабавалі больш рашучых дзеянняў. Таму на змену БНК і з'явіліся іншыя арганізацыі.

**— Якая ідэя перамагла? Ці, верагодна, усе зразумелі, што неабходна яднацца?**

— Рознагалоссі сярод прадстаўнікоў беларускіх арганізацый тады не былі пераадолены, асабліва паміж сябрамі Беларускай партыі народных сацыялістаў (на чале з Алексюком і Скірмунтам) і Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Яны датычылі перш за ўсё вырашэння сацыяльных пытанняў. Увогуле на працягу 1917 года пераважае ідэя аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай дэмакратычнай рэспублікі.

**— Першы Усебеларускі Кангрэс, адзіны правамоцны і праўдзівы прадстаўнік беларускага народа, як вядома, быў разагнаны бальшавікамі. Якія дзейсныя структуры ён здолеў стварыць?**

— Першы Усебеларускі Кангрэс (з'езд) урачыста адкрыўся, згодна з яго пратаколам, 8 снежня 1917 года. Сабраліся прадстаўнікі ўсіх беларускіх нацыянальных арганізацый і партый. Гэта быў прадстаўнічы сход. На ім прысутнічалі 1872 дэлегаты. З'езд выказаўся за аб'яднанне падзеленай фронтам

*(Заканчэнне на с. 4).*

***Сацыялагічная служба БелаПАН апытала 500 менчукоў з мэтай выявіць іх адносіны да пастановы Вярхоўнага Савета РБ аб адмене забароны на дзейнасць КПБ — КПСС. Згодны з рашэннем — 11%, катэгарычна супраць — 63%, усё роўна — 26%.***

●

***Апошнія баявыя машыны 76-ай гвардзейскай танкавай дывізіі, якая дыслацыравалася ў Брэсце, адпраўлены на пераплаўку на адзін з заводаў Барысава.***

●

***На ўдзел у другой канферэнцыі «Усход — Захад», якая адбудзецца 25—26 красавіка ў Токіо на ўзроўні міністраў эканомікі, запрошаны Беларусь, Украіна, Расія і Казахстан.***

●

***У Францыі ўжываецца 22 тысячы лекавых прэпаратаў. У Беларусі іх колькасць зменшылася да 400.***

# Зрухі ёсць, але іх мала

У Сенненскім раёне цяжка, дужа цяжка ідзе вяртанне да сваіх вытокаў. Але зрухі ўсё ж ёсць. Піянерамі ў справе адраджэння нацыянальнай культуры і роднай мовы сталі аддзелы культуры і адукацыі райвыканкама. Там і справаводства вядзецца па-беларуску, і ўвогуле нямала робіцца па прапагандзе гістарычнай спадчыны, беларускай мовы і літаратуры. Ужо і раённы Савет народных дэпутатаў некалькі сесій праводзіў па-беларуску. Праўда, не кожнаму было па сілах гаварыць так, як гаварылі продкі.

Вядома, не проста вярнуцца да роднай мовы на кансерватыўнай Сенненшчыне, дзе вельмі моцныя таталітарныя традыцыі. Праедзьце па дарогах раёна, і кінуцца ў вочы паказальнікі населеных пунктаў. Яны гавораць аб невуцтве і недалёкасці тых, хто некалі меў уладу і спрадвечныя назвы нашых вёсак прывёў у адпаведнасць з так званымі патрабаваннямі часу. Такім чынам, з'явіліся ў нас вёскі Атрадная, Свабодная, Лучазарная ды шмат іншых. Што яны агульнага маюць з беларускай тапанімікай? А з назвай адной вёскі адбылася нават дзіўная гісторыя. Пры дарозе з Сянно на Багушэўск стаяла некалі вёсачка Чартоўшчына. Камусьці з тагачасных раённых кіраўнікоў назва падалася непрыгожай. Таму яе аператыўна перайменавалі ў Камсамольскую. Пасля агледзеліся, што там няма ніводнага камсамольца. І яна стала Рассветам.

Але народ захаваў у памяці ранейшыя назвы мясцовых паселішчаў. Ва ўсіх афіцыйных дакументах, у мясцовым друку цэнтр калгаса імя Будзённага называецца Сінягорская. А людзі, як і даўней, завуць яе Трубаносамі. І кожнаму ясна, што маецца на ўвазе.

Дарэчы, пра калгасы. Многія з іх носяць назвы вельмі далёкія ад традыцый, ад гісторыі Беларусі. Я нічога не маю супраць таго, што ёсць у раёне калгас імя Заслонава, саўгасы імя Машэрава, Гараўца, Данукалава. Усё ж людзі з гэтымі прозвішчамі мелі нейкае дачыненне да Сенненшчыны. А вось калгасы імя Леніна, «Запаветы Ільіча», «Ленінскі шлях», імя Карла Маркса, «Праўда», «Кастрычнік», «Сцяг Леніна» і іншыя... Што тут скажаш?

Па-мойму, лепш ужо называць гаспадаркі па назве цэнтральных сядзіб. Хіба дрэнна гучыць: калгас «Бярозкі», калгас «Ульянавічы», саўгас «Багушэўскі»?

Тое ж самае можна сказаць і пра назвы вуліц райцэнтра. Тут — вуліцы Карла Маркса, Пралетарская, Кастрычніцкая, Чырвоны Кастрычнік, Савецкая, Свабоды, Перамогі і г. д. Праўда, з радасцю даведаўся, што адна з новых вуліц нядаўна названа Сонечнай. Хоць і не вельмі яна звязана з нашым краем, а ўсё ж нечым адметным адрозніваецца ад адыёзных рэвалюцыйных назваў. Але, відаць, час гэтых назваў ужо скончыўся.

**Іван ЛАЗУКА.**

**г. Сянно.**

# За волю і мову

**Сябры Полацкай рады БНФ звярнуліся да дэпутатаў Вярхоўнага Савета з лістом-заклікам не дапусціць ганьбавання мовы карэннага насельніцтва Беларусі. «Усялякія спробы і патугі навязаць двухмоўе,— гаворыцца ў лісце,— адно падрываюць аўтарытэт нашай Радзімы-Беларусі».**

# ЗАПРАШАЕМ НА НАБАЖЭНСТВА

*Напісана ў Бібліі: «...бо без Мяне ня можаце рабіць нічога». Мы будзем мець поспех толькі з Божай дапамогай. А дапамогу гэтую атрымаюць толькі вернікі, бо абяцана Хрыстом: «...чаго хочаце, прасіце, і станецца вам».*

*У беларусаў няма той еднасці, якая характэрна для нашых суседзяў-літоўцаў, палякаў, эстонцаў. Магчыма, прычына ў адсутнасці адзінай нацыянальнай царквы. Гістарычна так склалася, што на Беларусі існуе шмат канфесій, у якіх розныя геапалітычныя арыентацыі. Праваслаўныя традыцыйна зарыентаваны на Маскву, каталікі — на Польшчу. І мова ў цэрквах — адпаведна іх скіраванасці. Беларускую мову ў храме чуеш як выключэнне. Але абнадзейвае, што ва ўсіх канфесіях існуюць беларускія напрамкі.*

*Бадай, за ўсю гісторыю нашай краіны найбольш пацярпелі пратэстанты, бо супраць іх выступалі і праваслаўныя і каталікі. На набажэнствах у пратэстанцкіх цэрквах сям-там часам чуецца беларуская мова. Часцей за ўсё — у спевах. Улетку была створана Беларуская Евангельская Царква. Набажэнствы тут ідуць па-беларуску. Яны адбываюцца штотыднёва па аўторках, пачатак у 18.30 у абласной бібліятэцы імя Пушкіна (знаходзіцца за ЦУМам) на другім паверсе. Калі ўзнікнуць пытанні, можна пісаць: 220117 Менск, вул. Любімава, д. 21, кв. 56 або тэлефанаваць: 70-89-87 (Эрнст Сабіла).*

***Андрусь ДЫЛЮК.***

# *Усе мовы прыгожыя*

***(Гутарка з загадчыцай кафедры тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі Менскага дзяржаўнага педінстытута замежных моў, доктарам філалагічных навук, прафесарам, дырэктарам навукова-метадычнага цэнтра «Лінгвакультура» Мятлюк Ганнай Антонаўнай)***

**— Ганна Антонаўна, ходзяць чуткі, што Менскі інстытут замежных моў стаў своеасаблівай меркай для спецыялістаў, якія даследуюць гучанне слова, і сюды прыязджаюць фанетысты нават з замежных краін, а Ваша ж кафедра якраз займаецца менавіта праблемамі «агучвання» слова, як я разумею, то, калі ласка, падзяліцеся сваімі таямніцамі з чытачамі нашай газеты. Дарэчы, у інстытуце даследуецца фанетыка толькі замежных моў ці і беларускай таксама?**

— Наша кафедра тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі была заснавана ў 1967 годзе і звязана з імем вядучага фанетыста-эксперыментатара, прафесара Кіры Кірыякаўны Барышнікавай. Найперш кафедра пачала займацца навуковымі даследаваннямі і падрыхтоўкай кадраў для інстытута, бо ў той час у інстытуце было ўсяго некалькі кандыдатаў навук і ніводнага кандыдата навук у галіне фанетыкі. І трэба сказаць, што з гэтай задачай кафедра справілася вельмі добра. Цяпер, праз 26 гадоў пасля яе заснавання, у нас абаронена каля 80 кандыдацкіх і 3 доктарскія дысертацыі па фанетыцы. Падрыхтаваныя на кафедры кадры фанетыстаў зараз працуюць у многіх вышэйшых навучальных установах Беларусі. У інстытуце ўтварыўся сапраўдны навукова-даследчы фанетычны цэнтр, вядомы сярод навукоўцаў як Менская прасадычная школа. Аднымі з першых у краіне мы распачалі новыя навуковыя даследаванні, такія, як фонастылістыка, прасадычная (інтанацыйная) інтэрферэнцыя ў народнай мове. Пачалася сур'ёзная тэарэтычная распрацоўка пытання сістэмнасці прасодыі (інтанацыі), бо інтанацыя ўяўляе сабой адну з падсістэм мовы, як і лексіка, марфалогія, сінтаксіс, узаемадзеяння прасодыі з сінтаксісам.

**— У тым ліку беларускай?**

— У апошнія гады на кафедры напісаны шэраг дысертацый, прысвечаных параўнальна-тыпалагічнаму аналізу інтанацыі беларускай, англійскай і рускай моў, а таксама па прасадычнай інтэрферэнцыі (г. зн. па ўзаемадзеянню інтанацыйных сістэм кантактуючых моў — беларускай і рускай, беларускай і англійскай, беларускай і нямецкай, беларускай і французскай).

**— Для выкладчыкаў-практыкаў гэта нешта дае?**

— Такія навуковыя даследаванні маюць не толькі тэарэтычнае, але і вялікае практычнае значэнне для тых, хто вывучае і выкладае замежныя мовы, бо гэтыя даследаванні вызначаюць характар уплыву роднай мовы на іншамоўнае вымаўленне і падказваюць шляхі папярэджвання і пераадольвання інтэрферэнтных адхіленняў ад нормы пад уплывам роднай мовы. Па названай тэматыцы наш інстытут быў прызнаны вядучым сярод фане-

***(Заканчэнне на с. 4).***

# РАЗБУРАЛЬНАЯ САВЕТЫЗАЦЫЯ НАРОДНАЙ СВЯДОМАСЦІ

цыянальнай памяці, каб пачаць упрыгожваць гістарычны цэнтр сталіцы нейкімі выпадковымі вобразамі. Калі толькі не ўважаць гэта за іронію. Бо выбрана не якаясьці там «Рагнеда», «Барбара», «Алаіза», «Прадслава», а папулярнае ў Польшчы імя, якое асацыіруецца ў нас з




вядомай маскоўскай крамай. Прыкра і недаравальна, што на падобныя факты безуважна глядзяць у камісіі па культуры і адукацыі менскага гарадскога Савета, дзе з лёгкасцю неверагоднай рэгіструюць шыльды камерцыйных устаноў і дазваляюць расійскамоўную рэкламу.

Аднак вернемся да чайных праблем, а калі больш дакладна, да праблем гарбатных і спадарожных. Несумненна, словам «гарбата» павінен быў бы называцца раслінны набор зёлак, прызначаны для прыгатавання напою, здаўна распаўсюджанага ў Беларусі. Назва паходзіць ад лацінскага слова «гэрба» — трава. Водгулле новай хвалі палітызацыі адчуваецца ў імёнах печыва і цукерак: «Славяночка», «Славянка» (Менсккандытарпрам). Уявіце сабе штосьці падобнае, так бы мовіць, па аналогіі: «германачка», «англасаксоначка» або «семітачка», якія прызначаны для спажывання. Нейкі ірацыянальны фрэйдызм, ды і толькі!

### ГЕАПАЛІТЫЧНЫ СЛОЎНІК АМАТАРА КІЛБАС

ПЕРАХОДЗЯЧЫ да тэмы намінацыі прадуктаў больш самавітых, мушу паведаміць: вырабляецца ў Беларусі розных кілбас, вяндліны ды іншых смачных рэчаў каля сотні гатункаў. Азіраючы гэты неверагодны ў наш дэфіцытны век гастранамічны лексікон, карціць падзяліць яго на нейкія тыпалагічныя групы. Напрыклад, паводле геаграфічных прыкмет: «краснадарская», «майкопская», «маскоўская», «казанская», «дняпроўская», «барадзінская», «армавірская», «палтаўская», «кракаўская», «браўншвейгская», «неўская», «мінская», «адэская», «талінская», «астанкінская» кілбасы. Цікава, з чаго апошнюю робяць?

Вось вам апошні анекдот з жыцця магілёўскіх майстроў вяндлінная справы. Вынайшлі там, вырабілі нядаўна нешта адмысловае, і захацелася магілёўцам надаць прадукту гэтакае адметнае, трапнае мяно, каб ніхто не зблытаў і ведаў — гэтую кілбасу робяць толькі ў Магілёве. Успомнілі мясцовую гісторыю, зазірнулі ў фальклор — і вось: эўрыка! На свет з'явілася кілбаса «машэкаўская». У міністэрстве жахнуліся, прыгадаўшы асацыяцыю з героем беларускага народнага падання Машэкай. Назва не прайшла.

І ўсё ж імёнаслоўныя парыванні магілёўскіх вытворцаў — гэта ў прынцыпе лепш, чым тэхналагічнае эпігонства, засведчанае цэлым касяком вяндлінных вырабаў: «балык дарницкий», «окорок тамбовский», «окорок воронежский», «рулет ленинградский», «рулет ростовский». Куды, у якое небыццё савецкія харчавікі пастараліся адсунуць своеасаблівасць беларускай кухні? Дзе яны, адмыслова запечаныя кумпякі, шынкі, паляндвіцы? Чаму за паўстагоддзя нашы прадпрыемствы так і не навучыліся вырабляць вядомыя ў кожнай беларускай сям'і смачныя калдуны, хаця б у замарожаным, прамысловым варыянце? Чаму так напіналіся татальна распаўсюдзіць, «павесіць» кожнаму на вушы «русские пельмени»? Выбачайце ізноў за каламбур, але «пельмень» у перакладзе з удмурцкай і комі мовы якраз і значыць «хлебнае вуха».

І на заканчэнне пра самае «вясёлае».

### АЛКАГОЛЬНА-ПАТРЫЯТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

АБАПІРАЮЧЫСЯ на нашу айчынную фразеалогію, я бяруся вытлумачыць назву сусветнавядомага віскі «Белы конь», хоць і не дужа ўпэўнены, што на шатландскіх броварах мелі на ўвазе тое ж самае, былі знаёмыя з ідыёмай «сесці на белага каня». Хутчэй за ўсё «белы конь» для шатландцаў — гэта сімвал незацуглянай свабоды, разняволенасці. У дастатковай ступені прасочваецца вобразная сувязь паміж слоўным значэннем і таварнымі якасцямі германскай гарэлкі «Белы мядзведзь». Суцэльная загадка для мяне — малдаўская каньячная марка «Белый аист», аднак дапускаю, што тут прыхавана нешта тонкае, эзатэрычнае. Але вось апошні наватвор Менсккрухмалпрама, «выраблены са спірту «люкс» з дамешкам цукру», — гарэлка пад назвай «Белая Русь» выклікае этычныя пярэчанні. Не ведаю, пра што думалі на менскім бровары, але арымалася пагана. Цяжка бывае прадбачыць, да чаго прывядзе пашырэнне ў грамадстве краязнаўчых ведаў. Ці не натхніць яно менскіх вытворцаў на стварэнне новых моцных напояў накшталт «Заслаўскай горкай»? Здаецца, пачатак пакладзены: пі і вучыся?

# «О, загрыміць наша праўда і маланкай праляціць па свеце!»

Пад такім дэвізам прайшоў у Доме літаратара вечар, прысвечаны 155-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Упершыню пра дзейнасць кіраўніка паўстання на Беларусі і ў Літве 1863—64 гг. не гаварылася з цвёрдых пазіцый «марксізму-ленінізму», не вышукваліся ў яго духоўнай спадчыне «памылковыя погляды» на гісторыю грамадства. Нашы сумленныя і ва ўсе часы незалежныя навукоўцы Генадзь Кісялёў і Адам Мальдзіс у сваіх выступленнях паказалі К. Каліноўскага перадусім як нацыянальнага дзеяча — тытана беларускага Адраджэння, які сваім жыццёвым подзвігам і прыкладам абумовіў далейшае развіццё перадавой грамадска-палітычнай і нацыянальна-вызваленчай думкі на Беларусі, ідэолагамі якой на пачатку XX ст. сталі Купала, Колас, Багдановіч, браты Луцкевічы, Ластоўскі, Цётка, Гарэцкі і іншыя. Не было б К. Каліноўскага з яго «Мужыцкай праўдай» і «Лістамі з-пад шыбеніцы» — не было б «Нашай нівы», «Нашай долі», «Гоману» і іншых выданняў для народа.

Было адзначана велізарнае значэнне Кастуся Каліноўскага ў развіцці беларускай культуры, мовы і літаратуры, самасвядомасці народа. Ганьба, што да гэтага часу яму не пастаўлены на Бацькаўшчыне помнік, не адкрыты музей.

К. Каліноўскі быў перш за ўсё будзіцелем нацыянальнай свядомасці запрыгоненага сялянства і абаронцам ідэі нацыянальнага суверэнітэту Беларусі. Да народа ён звяртаўся ў «Мужыцкай праўдзе» на роднай мове, а ў сваім Часовым урадзе ўзняў гэту мову да ўзроўню дзяржаўнай. Сучаснікі Каліноўскага, сябры і гісторыкі, адзначалі, што з «Цэнтральным варшаўскім камітэтам» Кастусь вёў спрэчкі па нацыянальным пытанні, «быў адным з прыхільнікаў і папулярызатараў сепаратысцкіх літоўскіх памкненняў і неаднаразова выказваўся на сваёй ярка народнай мове, што «дурным варшаўскім галовам нельга давяраць лёс Літвы» (В. Пшыбароўскі). З польскім народам К. Каліноўскага звязвала барацьба супраць агульнага ворага — царызму. Ён пісаў: «Польская справа — гэта наша справа, гэта справа свабоды». Аднак кіраўнік паўстання на Беларусі катэгарычна выступаў супраць зліцця Беларусі з Польшчай. Ён хацеў, каб адносіны Літвы, Беларусі і Польшчы ў будучым будаваліся на аснове раўнапраўя і суверэннасці.

З рускім народам К. Каліноўскага звязвала ідэя сацыяльнай свабоды, якую ён вынес з Пецярбургскага універсітэта. Па словах гісторыка В. Ратча, Кастусь быў чалавекам герцэнаўскай школы, «які на чале... чырвоных ліцвінаў настойліва праводзіў ідэю самастойнасці».

«Я не праціўнік шчасця народнага, не праціўнік і Расіі, калі яна дабра нам жадае, — пісаў Каліноўскі, — але праціўнік тых бедстваў, якія пасягаюць край наш няшчасны». Разам з тым у газеце «Глос з Літвы», якую Каліноўскі выдаваў у Кёнігсбергу, ён абураўся тым, што «Масква праследуе мову польскую, беларускую, літоўскую, маларускую, а навязвае маскоўскую». Калі Каліноўскаму пасля арышту далі пяро і паперу, ён на выдатнай рускай мове напісаў разважанне пра адносіны царскіх улад да насельніцтва Заходняга краю, у якім выказаў глыбокую пагарду да рускіх чыноўнікаў, што прыехалі ў край.

Каліноўскі зрабіў усё магчымае для таго, каб надаць сялянскаму паўстанню агульнанародны характар і вырваць свабоду з рук самаўладства. Гэта яму не ўдалося. На жаль, паражэнню паўстання паспрыяла і недастатковая нацыянальная свядомасць запрыгоненага беларускага народа. Што да арганізатарскіх здольнасцей Каліноўскага, то ён быў выдатны стратэг, тактык, канспіратар, «меў незвычайную здольнасць дзейнічаць спакойна, абачліва, асцярожна. Усюды раз'язджаў, няўлоўны для жандараў, мяняючы сваю знешнасць у залежнасці ад абставін. Пранікаў усюды, нічым не вылучаючыся з натоўпу, пад выглядам служачага павятовага суда... Гэта быў вялікі патрыёт і вялікі характар. Яго смерць зрабіла велізарны ўплыў смеласцю і верай у будучыню» (А. Гілер). І яшчэ адно сведчанне. Я. Гейштор, адзін з кіраўнікоў партыі «белых» у Літве і Беларусі, пісаў: «Чалавек гэты, незвычайнай вытрымкі і бязмежнай самаахвярнасці, з'яўляўся найвыдатнейшым, не маючым аналагаў, узорам рэвалюцыянера, ён адзін мог замяніць сотні, паколькі ўмеў цалкам аддавацца барацьбе, ахвяроўваць сабой і скрывацца ад праследаванняў».

Кастусь Каліноўскі — народны інтэлігент у поўным значэнні гэтага слова. Ён ад тае новай і першай пасля стагоддзя духоўнага заняпаду беларускай інтэлігенцыі, што адраджалася па шляхецкіх засценках і першым крокам якой у грамадскае жыццё стала заступніцтва, абарона чалавечых правоў народа, вывучэнне яго духоўнай спадчыны. Каліноўскі не аддзяляў сябе ад гэтага народа. Яго называлі «хлопаманам», бо ён быў заўсёды з народам. Яго ідэал сялянскай роўнасці і свабоды выяўляецца ў наступных словах: «Чалавек свабодны — гэта калі ён мае кавалак сваёй зямлі, за якую ні чыншу, ні аброку не плоціць, ні паншчыны не служыць, а плоціць невялікія падаткі... калі робіць усё, што яму па душы і што не крыўдзіць яго бліжняга...» Стоячы тварам да вісельні ў час чытання прыгавору, дзе ён названы быў дваранінам, Каліноўскі горача запярэчыў: «Дваранаў няма, мы ўсе роўныя».

Асноўныя рысы Каліноўскага — вялікі розум, незвычайная сіла характару, бескарыслівасць, патрыятызм, пачуццё справядлівасці і чалавечай годнасці.

На вечарыне прагучаў аповяд дацэнта БДУ Шалькевіча аб каханні Каліноўскага да Марысі Ямант, якая паплацілася за нарачонага дзесяццю гадамі ссылкі ў Сібір.

Прачулае слова аб кіраўніку паўстання сказалі Мікола Купава, Алесь Разанаў, Раіса Баравікова, Сяргей Панізьнік, Анатоль Сыс. Народны артыст Павел Дубашынскі прачытаў старонкі з «Мужыцкай праўды». Паўстанцкія і ваярскія песні выканалі Ігар Міхно і гурт «Камелот». Выступіў таксама кампазітар Зміцер Яўтуховіч. У фае другога паверха госці агледзелі выставу твораў жывапісу і графікі, прысвечаную паўстанню 1863—64 гг. і асабіста легендарнаму змагару за вольную Беларусь.

**Ірына КРЭНЬ.**

# ШЛЯХ ДА ВОЛІ

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).*

Бацькаўшчыны, устаноўленне ў межах Беларусі дэмакратычнага, рэспубліканскага ладу. Ён не паспеў закончыць сваю працу, быў незаконна разагнаны ў ноч з 17 на 18 снежня (па старым стылі) 1917 года прадстаўнікамі бальшавіцкай улады на Беларусі — Аблвыкамзаха. З'езд паспеў абраць са свайго складу Выканаўчы Камітэт Рады З'езда на пасяджэнні 18 снежня ў чыгуначным дэпо. Выканаўчы Камітэт на чале з Тамашом Грыбам працаваў нелегальна да 18 лютага 1918 года.

**— Хто дапамагаў ім дзейнічаць падпольна?**

— Мясцовае насельніцтва. Тэлеграфісты дапамагалі перадаваць распараджэнні з Менска ў іншыя гарады ад імя Выканаўчага Камітэта З'езда. Чыгуначнікі бясплатна перавозілі беларускіх дзеячаў, жыхары вёсак дапамагалі сябрам Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады збіраць зброю — пра гэта згадвае ў сваіх успамінах Макар Краўцоў.

**— Як развіваліся падзеі пасля наступу нямецкіх войск?**

— 18 лютага 1918 года нямецкія войскі перайшлі ў наступленне па ўсёй лініі фронту. У ноч з 19 на 20 лютага СНК Заходняй вобласці і фронту паспешна пакінуў Менск. 19 лютага пачаліся пасяджэнні Выканаўчага Камітэта З'езда, а 20 лютага быў створаны ўрад — Народны Сакратарыят Беларусі на чале з Язэпам Варонкам. 21 лютага, перад самым прыходам немцаў, Выканаўчы Камітэт апублікаваў Першую Устаўную Грамату да народаў Беларусі. Выканаўчы Камітэт Рады З'езда, склікаўшы Раду З'езда, прыняў на сябе заканадаўчыя функцыі. Першы нямецкі эшалон быў у Менску ўрачыста спатканы палякамі, а таксама Р. Скірмунтам і П. Алексюком. За гэта Аляксюк быў выключаны са складу Выканаўчага Камітэта. Пачынаючы з 25 лютага 1918 года, «улада беларусаў»,— як пісаў Язэп Варонка,— стала змяншацца, а хутка абмежавалася толькі нацыянальна-прадстаўнічай і дарадчай працай.

9 сакавіка 1918 года Выканаўчы Камітэт у Другой Устаўной Грамаце абвясціў асновы Беларускай Канстытуцыі. 19 сакавіка 1918 года Выканаўчы Камітэт быў пераўтвораны ў Раду БНР. На пасяджэнні з 24 на 25 сакавіка 1918 года Рада БНР Трэцяй Устаўной Граматай дэкларавала незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі ў межах, дзе пераважаў беларускі народ. Умовы Брэсцкага міру аб'яўляліся неабавязковымі і незаконнымі ў адносінах да Беларусі. Такім чынам, пасля доўгага панавання чужынцаў Беларусь аб'яўлялася вольнай і незалежнай дзяржавай.

**Гутарыў Здзіслаў СІЦЬКО.**

# Усе мовы прыгожыя

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 3).*

тычных цэнтраў краіны.

**— Ну, а як менавіта з беларускай фанетыкай?**

— На працягу многіх гадоў вывучэнне замежных моў вялося ў параўнанні з рускай мовай. Калі-нікалі звярталіся за прыкладамі да беларускай мовы, бо некаторыя гукі замежных моў лягчэй засвойваюцца пры параўнанні з гукамі беларускай мовы. Але для параўнання з беларускай мовай неабходна было ведаць не толькі сістэму гукаў-фанем, але і сістэму моўнай прасодыі, г. зн. акцэнтуацыі слова і фразы, мелодыку, рытміку, тэмпаральныя характарыстыкі мовы. На жаль, беларуская прасодыя амаль зусім не была даследавана ў той час. У 1972 годзе ў Менскім дзяржаўным педінстытуце замежных моў адбылася канферэнцыя, на якой упершыню былі прадстаўлены даклады па выніках эксперыментальна-фанетычнага даследавання інтанацыі беларускай мовы. Цяпер, на кафедры тэарэтычнай і эксперыментальнай фанетыкі сабраны даволі багаты матэрыял па беларускай фразавай прасодыі, які, няглядзячы на шматлікія публікацыі кафедры, на жаль, не стаў яшчэ здабыткам тых, хто вывучае і выкладае беларускую мову.

**— Ганна Антонаўна, нам вядома, што ў вас створаны навукова-метадычны цэнтр «Лінгвакультура». Ці не маглі б вы растлумачыць, што наогул азначае паняцце «лінгвакультура» і сказаць колькі слоў пра работу цэнтра.**

— Лінгвакультура азначае культуру мовы, правільнае ўжыванне моўных сродкаў, культуру моўных зносін у розных сітуацыях, правільнае, прыгожае маўленне, якое вар'іруецца ў залежнасці ад стылю маўлення, ад таго, у якіх абставінах ідзе гутарка, адносін паміж субяседнікамі і мэтай камунікатыўнага акта. Гэта і ўменне карыстацца сваім голасам, добрая дыкцыя. Зразумела, што моўная культура ўключае ў сябе і фанетычны аспект. Асабліва трэба звярнуць увагу на моўную інтанацыю, якая мае вялікае значэнне не толькі для пабудовы вусных выказванняў, але і для перадачы поўных сэнсавых адценняў выказвання, г. зн. уплывае на агульны сэнс таго, пра што мы гаворым. Навукова-метадычны цэнтр «Лінгвакультура» ставіць перад сабой задачу далейшага развіцця эксперыментальна-фанетычных даследаванняў вуснай мовы, а таксама ўкаранення ў практыку выкладання моў, у першую чаргу — беларускай, вынікаў навуковых даследаванняў. Я думаю, што яны могуць зацікавіць не толькі спецыялістаў у галіне беларускага мовазнаўства, але і артыстаў, і работнікаў радыё і тэлебачання, і лектараў. Зразумела, што існуе яшчэ шмат навуковых праблем, якія трэба вырашыць. Але, з другога боку, супрацоўнікі кафедры таксама рыхтуюць дапаможнікі і падручнікі, выкарыстоўваючы той беларускі матэрыял, які ў нас ужо ёсць. Пры навукова-метадычным цэнтры «Лінгвакультура» будзе працаваць семінар для тых, хто зацікаўлены ў вывучэнні беларускай інтанацыі, прасодыі слова і фразы. Дарэчы, вынікі нашых фанетычных даследаванняў выкарыстоўваюцца ў цэнтры «Лінгвакультура» і пры рабоце з дзецьмі з парушаным слыхам — навучанне іх замежным мовам і развіццё навыкаў маўлення на роднай мове.

**— Існуе такое меркаванне, што беларуская мова адна з найпрыгажэйшых моў свету. Ці падзяляеце Вы гэтую думку?**

— Усе мовы прыгожыя, і, мабыць, нельга сказаць, што адна мова прыгажэйшая за другую. Але ж сапраўды ёсць нейкія рысы ў беларускай мове, якія даюць падставу гаварыць аб ёй як аб прыгожай нават тым, для каго яна не з'яўляецца роднай. Аб'ектыўны слыхавы і акустычны аналіз беларускай інтанацыі ў параўнанні з рускай, англійскай, французскай, нямецкай пацвердзіў яшчэ раз, што беларускае маўленне вельмі мілагучнае, са своеасаблівым рытмам і тэмпаральнай арганізацыяй фразы (пры захаванні поўнай формы гукаў ненаціскных складоў без іх рэдукцыі). Мне даводзілася чуць такія ацэнкі беларускага вымаўлення ў нашай краіне і за мяжой.



Мы чуем, як гучыць беларуская фраза: « Вы на пошту заходзіце будзеце?», а вось так чынам яе гучанне падаецца электраакустычным аналізатарам (інтанографам).

**— Дзякуй, Ганна Антонаўна, за цікавыя паведамленні. А цяпер Ваша пажаданне на заканчэнне размовы.**

— Хацелася б, каб вынікі эксперыментальна-фанетычных даследаванняў беларускай інтанацыі як найшырэй выкарыстоўваліся не толькі ў Інстытуце замежных моў, але і студэнтамі-беларусістамі, выкладчыкамі беларускай мовы іншых навучальных устаноў.

**Распытвала Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# Беларусь: умацаванне дзяржаўнасці
## (сярэдзіна XIII — пачатак XVI ст.)

*П. А. ЛОЙКА,*
*кандыдат гістарычных навук*

*(Заканчэнне. Пачатак у № 10).*

Не меншую небяспеку для беларускіх зямель у той час уяўляла крыжацкая навала. Агрэсія Ордэна ішла пад знакам місіянерскай дзейнасці. Яна пагражала не толькі разбурэннямі славянскіх і балцкіх гарадоў і вёсак, фізічным знішчэннем народаў, але і знішчэннем духоўным, прымусовым анямечваннем этнасаў Усходняй Еўропы. Таму змаганне з тэўтонамі стала барацьбой за выжыванне славянства.

15 ліпеня 1410 г. на вузкім полі каля вёсачак Грунвальд, Людвікава і Таненберг сышліся на бітву аб'яднаныя войскі Вялікага княства Літоўскага і Польскага каралеўства з войскам крыжацкім. Гэта бітва ўвайшла ў гісторыю як «вялікая». Вялікая таму, што ніводная з бітваў сярэднявечча не збірала такой колькасці воінаў — некалькі дзесяткаў тысяч. Але вялікая яшчэ і таму, што яна прадвызначыла далейшае гістарычнае развіццё многіх еўрапейскіх народаў, стала фіналам больш чым двухсотгадовага ўзброенага супрацьстаяння славянства і крыжацкіх заваёўнікаў.

На грунвальдскім полі войскі Вялікага княства Літоўскага налічвалі 40 харугваў, сярод якіх значыліся Гарадзенская, Лідская, Полацкая, Віцебская, Навагародская, Ваўкавыская, Берасцейская, Пінская, палкі Мсціслаўскі, Аршанскі, Слуцкі, Магілёўскі, воіны з Нясвіжа, Кобрына, Крэва, Лукомля, Ашмянаў...

Сілы бакоў былі прыкладна роўныя. Але ж за спінай у беларусаў, палякаў, літоўцаў была свая зямля, свае хаты ды сем'і, таму баявы дух іх быў куды вышэй. Гэта, відаць, і вырашыла зыход жудаснай сечы, якая доўжылася цэлы дзень. У выніку Ордэн пацярпеў сакрушальнае паражэнне. Удар для тэўтонаў быў настолькі ашаламляльны, што землі ўсходніх славян цэлых пяць наступных стагоддзяў не ведалі германскай агрэсіі.

Вялікае княства Літоўскае існавала ў форме своеасаблівай федэрацыі зямель «Літвы» і «Русі». Славяне займалі 9/10 тэрыторыі дзяржавы і складалі 4/5 усяго насельніцтва.

Правадніком ідэі аб'яднання беларускіх зямель вакол Вільні быў вялікі князь Альгерд [1345—1377]. Паказальна, што першую палавіну жыцця ён правёў у Полацку (у першым шлюбе быў жанаты з віцебскай князёўнай Марыяй Яраслаўнай) і спрабаваў падпарадкаваць сваёй уладзе Пскоў. Калі ж Альгерд стаў Вялікім князем Літоўскім, то спрабаваў авалодаць Ноўгарадам Вялікім, далучыў да Вялікага княства Валынь (1352 г.), Бранск і Смаленск (1357 г.), Кіеў (1362 г.), Падолле (1363—64 гг.), Чарнігава-Северскую зямлю (канец 60 — пачатак 70-ых гадоў XIV ст.). Межы нашай дзяржавы тады ахоплівалі велізарную тэрыторыю ад Балтыі аж да Чорнага мора, ад Супрасля і далей на захадзе аж да Мажайска і Каломны на ўсходзе (107 км ад Масквы).

Аднак вялікі князь Ягайла [1377—1392] не стаў пераемнікам палітыкі Альгерда ў ажыццяўленні праграмы збірання зямель вакол Вільні. Негатыўную ролю тут адыграла палітыка Рыма, які баяўся стварэння звышмагутнага праваслаўнага бастыёна на ўсходзе Еўропы. Ды і актывізацыя захопніцкай палітыкі Ордэна падштурхоўвала Вялікае княства да саюза з Польшчай. І калі ў сярэдзіне 60-ых гадоў XIV ст. вызначыліся магчымасці дынастычнага шлюбу Ягайлы з польскай каралевай Ядвігай ці з дачкой Дзмітрыя Данскога, — вялікі князь прыняў першы варыянт.

1387 год, калі Ягайла стаў Уладзіславам, прыняўшы каталіцтва, можна лічыць датай змянення сацыяльна-прававога становішча беларускіх зямель у Вялікім княстве. Феадальная знаць каталіцкага веравызнання вызвалялася ад шэрагу дзяржаўных павіннасцей. На праваслаўных феадалаў гэты прывілей не распаўсюджваўся. Натуральна, што такі дыскрымінацыйны для праваслаўных закон выклікаў у іх асяроддзі незадавальненне палітыкай вярхоўнай улады.

З канца XIV ст. так званае «рускае» пытанне ў поліэтнічным Вялікім княстве не аднойчы падымалася і выкарыстоўвалася рознымі палітычнымі дзеячамі і групоўкамі. Першым скарыстаў яго Вітаўт, які ў 90-ых гадах XIV ст. выступіў з праграмай стварэння самастойнага «Руска-Літоўскага каралеўства», якое супрацьстала, з аднаго боку, Польшчы, з другога,— Маскве. Вітаўт узяў у саюзнікі апазіцыйную каталіцкай экспансіі Польшчы праваслаўную знаць, а за межамі Вялікага княства — Ордэн, якому было выгадна пагаршэнне адносін паміж княствам і Польскай дзяржавай, а таксама татарскага эмігранта, былога залатаардынскага хана Тахтамыша. З Ордэнам вясной 1398 г. было заключана пагадненне, паводле якога Вітаўт абвяшчаўся «каралём Літвы і Русі».

Аднак 12 жніўня 1399 г. на рацэ Воркслe адбылася бітва паміж каалі-цыяй Вітаўта-Тахтамыша і войскамі Залатой Арды. Армія Вітаўта была амаль цалкам знішчана, сам жа вялікі князь «побеже в мале дружине».

Паражэнне на Ворскле прымусіла заключыць дагавор 1401 г. паміж Вялікім княствам і Польшчай, які пацвярджаў «польска-літоўскую» унію, што была заключана 16 гадоў назад ў Крэве. Акрамя таго, дагавор 1401 г. ізноў супрацьпастаўляў феадалаў каталіцкага веравызнання праваслаўным.

У 1430 г. вялікім князем літоўскім становіцца малодшы брат Ягайлы Свідрыгайла Альгердавіч, які раней выступаў супраць палітыкі Вітаўта першых дзесяцігоддзяў XV ст.

На вялікае княжанне Свідрыгайла ўзышоў пры падтрымцы князёў і баяр беларускіх, украінскіх і рускіх зямель Вялікага княства. Таму няма нічога дзіўнага, што новы гаспадар пачаў абапірацца на гэтыя сілы ў кіраванні дзяржавай. Пры ім праваслаўная арыстакратыя так званых рускіх абласцей займае вышэйшыя пасады, засядае ў велікакняжацкай Радзе (князі Друцкія, Баба-Карсаковічы, Хадкевічы, Палазовічы і інш.). Яна прымае ўдзел у вырашэнні самых адказных дзяржаўных пытанняў.

Узрастанне ролі праваслаўнай знаці прывяло да змовы супраць Свідрыгайлы Альгердавіча. У ноч на 1 верасня 1432 г. адбыўся замах на вялікага князя. Свідрыгайла ратаваўся ўцёкамі ў Полацк. Змоўшчыкі пасадзілі на віленскі стол роднага брата Вітаўта—Жыгімонта Кейстутавіча.

Каб выбіць у Свідрыгайлы апору на праваслаўных феадалаў, 15 кастрычніка 1432 г. каралём Польшчы Уладзіславам-Ягайлам са згоды Жыгімонта Кейстутавіча быў выдадзены прывілей, паводле якога знакамітыя роды праваслаўнага веравызнання ўраўноўваліся ў правах з феадаламі-каталікамі. Праз год і сем месяцаў, 6 мая 1434 г., быў абнародаваны аналагічны прывілей, які ўжо паходзіў толькі ад аднаго вялікага князя Жыгімонта. Але адно з галоўных пытанняў — удзел праваслаўных феадалаў у кіраванні дзяржавай — граматай Жыгімонта Кейстутавіча не вырашалася. У сувязі з гэтым працягвалася далейшая ўнутрыпалітычная барацьба, якая часцяком абумоўлівалася знешнепалітычным становішчам Беларуска-літоўскага гаспадарства, асабліва адносінамі з суседняй Маскоўскай дзяржавай.

З канца XV ст. усходні сусед — Маскоўская дзяржава, якая набірала моц,— пачала праводзіць палітыку пад лозунгам збірання ўсіх усходнеславянскіх зямель. У 50—80-ыя гады XV ст. адносіны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай Руссю рэгуляваліся дагаворам 1449 г. Казіміра і Васіля II. Апошні браў на сябе абавязак «не вступатися» ў вотчыну Казіміра: «ни в Смоленск, ни в Любутеск, ни во Мценск, ни во вси... вкраинныи места». А Казімір адмаўляўся ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі і Пскоў. Дагавор заклікаў суседнія дзяржавы «жыти в любви, быти везде заодин». Але гэту дэкларацыю ажыццявіць было цяжка.

У 1494 г. заключаны новы мірны дагавор паміж суседнімі дзяржавамі. Іван III і Аляксандр змацавалі подпісамі дакумент, паводле якога літоўскі бок прызнаваў далучэнне да Масквы ўладанняў тых літоўскіх князёў, якія збеглі ў Масковію (Вяземскія, Баратынскія і інш.), а таксама адмаўляўся «на вечныя часы» ад прэтэнзій на Ноўгарад Вялікі, Пскоў, Цвер, Разань. Іван III пацвердзіў абавязацельства Васіля II не «вступатися» ў Смаленск. Але мірнага дагавору хапіла ўсяго на 6 гадоў.

На працягу XVI стагоддзя Вялікае княства Літоўскае і Маскоўская дзяржава пастаянна знаходзіліся паміж сабою ў стане вайны. У канцы 90-ых гадоў XV ст. на бок Масквы перайшлі князі Сямён Бельскі, Сямён і Іван Мажайскія, Васіль Шамяціч. Пад уладай Масквы аказаліся багатыя воласці з гарадамі Ноўгарад-Северскі, Чарнігаў, Старадуб, Гомель ды інш. Такое развіццё падзей не магло не прывесці да абвастрэння супрацьстаяння. І сапраўды, 14 ліпеня 1500 г. «з'ехалося войско литовское з московским на Ведрошы, и учинили межы собою и сечу великую, и побила Москва Литву». Вынікам пераможнай для Маскоўскай дзяржавы вайны з'явіўся мірны дагавор 1503 г.: да Масквы афіцыйна далучаны Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Гомель, Бранск, Пуціўль, Старадуб, Мцэнск.

XVI стагоддзе для Вялікага княства Літоўскага пачалося няўдала — са страты значнай часткі ўсходніх зямель.

У 1507 г. у княстве выбухнула паўстанне пад кіраўніцтвам князя Глінскага. Разумеючы, што без моцнага знешняга саюзніка не абысціся, Міхаіл Глінскі заручыўся падтрымкай Масквы. Падчас вайны паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай, якая пачалася ў 1507 г., Васілю III было з рукі «ўзбунтаванне» прыгранічных тэрыторый праціўніка. Гэта давала дадатковыя шанцы на перамогу. Дзеля аслаблення магутнага заходняга суседа Маскоўскі ўрад мог нават пайсці на стварэнне марыянетачнага буфернага княства. Практычна такі вынік паўстання Масквой і прадугледжваўся.

Цэнтрам паўстання стаў Тураў — спадчыннае ўладанне Глінскіх. Адсюль Міхаіл пайшоў да Мазыра, «Мозыр взял и своими людми осадил». Далей летапісец занатаваў, што «пристали теж до него княжата Друцкие и князь Михаил Мстиславский з замком своим, той з Друцким, а сей Мстиславским, так теж и оршанци, Кричев, Гомель поддалися ему». Сумесна з маскоўскім войскам атрады Глінскага аблажылі Менск. Аблога суправаджалася рэйдамі асобных падраздзяленняў «мало не до Вильни».

Размах паўстання прымусіў Жыгімонта накіраваць супраць «бунтаўнікоў» шматлікае войска. Глінскі пачаў адыходзіць да Оршы, дзе былі сканцэнтраваны асноўныя сілы арміі Маскоўскай дзяржавы. Камандаванне рускім войскам заключыла мірнае пагадненне з Жыгімонтам, паводле якога Глінскім і іх паплечнікам гарантаваўся свабодны выезд з Вялікага княства ў Маскву. Гэты ж дагавор пацвярджаў граніцы, што былі вызначаны Іванам III і Аляксандрам. У 1512 годзе Масква распачала чарговую вайну, і ў 1514 г. войскі Васіля III, авалодаўшы Смаленскам, рушылі ўглыб Княства ў напрамку Друцка і Оршы. Прыпыніць 80-тысячнае рускае войска князя М. Булгакава-Голіцы ды баярына І. Чаляднiна магло толькі крыху большае за 30 тысяч войска на чале з вядомым ваяром, выдатным беларускім палкаводцам, гетманам Канстанцінам Астрожскім. Сутычка паміж гэтымі далёка не раўназначнымі па колькасці арміямі адбылася 8 верасня 1514 года на рацэ Крапіўна пад Оршай. Тонкі тактычны разлік гетмана Астрожскага, добрая ўзброенасць (прынамсі гарматамі) войска Вялікага княства, а самае галоўнае, мужнасць і рашучасць воінаў, якія абаранялі незалежнасць, само жыццё сваёй дзяржавы, свае хаты і сем'і дазволілі ўшчэнт разбіць маскоўцаў і на пэўны час спыніць імкненне Масквы авалодаць нашымі землямі.

## Кароткая энцыклапедыя беларускай мовы

**Ганна АРАШОНКАВА (21.XI.1928), кандыдат філалагічных навук, аўтар прац па дыялекталогіі, лексікаграфіі, лінгвагеаграфіі. Вывучала тэндэнцыі развіцця асабовых форм дзеясловаў беларускай мовы XVI ст., лексіку балтыйскага паходжання, паланізмы ў беларускай дыялектнай і літаратурнай мовах, асаблівасці мовы Якуба Коласа ды інш. Г. Арашонкава — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года за ўдзел у комплексным даследаванні ў галіне беларускай лінгвагеаграфіі, адна з аўтараў «Слоўніка беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча» ды іншых слоўнікаў.**

*Паводле І. У. Саламевіча.*

**АРТЫКУЛЯЦЫЙНАЯ І ПЕРЦЭПТЫЎНАЯ БАЗА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ. Якіх-небудзь асаблівасцей у будове або функцыянаванні органаў маўлення ў людзей, што належаць да розных нацыянальнасцяў або рас, няма. І кожнае дзіця здольнае засвоіць любую мову і гаварыць на ёй без акцэнту. Але здольнасць навучыцца вымаўляць чужыя словы без акцэнту ў пэўным узросце (13—15 гадоў) людзі трацяць. Звязана гэта з замацаваннем пэўных, адметных для носьбітаў кожнай мовы, рухаў органаў маўлення пры ўтварэнні гукаў (што і называецца артыкуляцыйнай базай) і схільнасцю органаў слыху чалавека пазнаваць і адрозніваць толькі тыя гукі мовы, якія ёсць у роднай мове (гэта — перцэптыўная база).**

**Маўленчыя звычкі вельмі ўстойлівыя, чалавек захоўвае ў вуснай мове адны і тыя ж навыкі вымаўлення гукаў на працягу ўсяго жыцця. Пры пераходзе на іншую мову яны выяўляюцца ў выглядзе акцэнту. Так, дыялектны акцэнт назіраецца ў некаторых носьбітаў літаратурнай беларускай мовы. Носьбіты расійскай мовы заўважаюць беларускі акцэнт у расійскамоўных беларусаў. Яго існаванне звязана з такімі важнымі рысамі артыкуляцыйнай базы беларускай мовы: агульная ненапружанасць, расслабленасць моўных органаў, схільнасць да моцнага памякчэння мяккіх гукаў, значная адметнасць цвёрдых зычных ды інш.**

*Паводле А. І. Падлужнага.*

**АРФАГРАФІЯ, або правапіс — гэта сістэма правілаў, якімі кіруюцца пры перадачы вуснай мовы на пісьме. Без іх чытаць было б вельмі цяжка. Само слова «арфаграфія» трапіла ў беларускую мову з грэчаскай: грэч. *арфаграфія* ад *ортас* 'правільны' і *графа* 'пішу'.**

*Паводле П. П. Шубы.*

**АРФАЭПІЯ (грэч. *артаэпія* ад *ортас* 'правільны' і *эпас* 'мова', 'гаворка') — гэта збор правіл (норм) вымаўлення асобных гукаў ды іх спалучэнняў і раздзел мовазнаўства, у якім вывучаюцца гэтыя правілы. Арфаэпічныя нормы, уласцівыя вуснай форме літаратурнай мовы, забяспечваюць яе адзінае гукавое афармленне і робяць маўленне дасканалым сродкам моўных зносін.**

*Паводле Л. М. Грыгор'евай.*




*Рубрыку вядзе*

*Лявон* **БАРШЧЭЎСКІ**

Непаўторным шэдэўрам лірыкі нашага славутага земляка, выдатнага паэта польскай мовы Адама Міцкевіча (1798—1855) было наканавана вярнуцца ў Беларусь у арэоле здабытай ім сусветнай славы...

*Адам* **МІЦКЕВІЧ**

## Паліліся мае слёзы...

Паліліся мае слёзы, як дождж чысты і краплісты,
На маленства, што было анельскім, сельскім,
На юнацтва час мой шумны, неразумны,
А таксама на век сталы, век няўдалы:
Паліліся мае слёзы, як дождж чысты і краплісты...

*Пераклад з польскай Максіма Танка.*

## Да Нёмана

*Санет*

Прысядзібны мой, хатні мой Нёман, дзе воды,
Да якіх па квяцістых скакалі мы гонях
І ў якія свае апускалі далоні,
Каб крынічнай зачэрпаць хутчэй прахалоды?

Тут Лаура глядзела ў люстэрка прыроды,
Валасы заплятала, уквечвала скроні;
Тут выяву красы яе ў сэрбным улонні
Скаланаў я слязой захаплення й лагоды.

Родны, хатні мой Нёман! Крыніцы дзе тыя,
З імі шчасце, надзеі, што так віравалі?
Дзе празрыстых лятункаў крыніцы прапалі?
Дзе сябрына, юнацтва гады залатыя? —
Ўсё панеслі з сабой хвалі часу крутыя.
Калі так — дык чаму ж маіх слёз не забралі?

## Размова

Мая каханка! Нашто нам размова?
Хачу з табою чуццём падзяліцца,
Каб душа ў душу магла пераліцца.
Душы навошта драбніцца на словы, —
Хіба да сэрца яны дападаюць?
Злятаюць з вуснаў і стыгнуць, знікаюць.

Ах, я кахаю! Ты чула прызнанне,
Але ў маркоце даходзіш да гневу,
Што я нібыта не здольны каханне
Як след выказваць табе ці выспеўваць;
І як, не знаю, бы ў сне летаргічным,
Падаць жыцця знак, — малюнак нязвычны...

Прынукай мучыць сябе не гатовы,
З тваімі прагнуць мае вусны зліцца!
Адно біццём сэрца хачу размовы
Ды пацалункамі нагаварыцца;
І размаўляць так гадзіны, дні, леты,
Да канца свету і па канцы свету.

*Пераклад з польскай Васіля ЖУКОВІЧА.*

(Ганарар за публікацыю перакладчык ахвяруе на карысць рэдакцыі).




*18 сакавіка спаўняецца 75 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага паэта Паўлюка Пранузы. Віншуючы паэта з юбілеем, жадаем яму добрага здароўя, творчага неспакою і ўсяго самага найлепшага.*

*Паўлюк* **ПРАНУЗА**

## Вясёлка

**У сяброўкі Лены**
**Верачка пытае:**
**— А чаму вясёлка**
**Столькі фарбаў мае?**

**Збажыной лагодна**
**Зашумела поле:**
**— Аддаю вясёлцы**
**Свой зялёны колер.**

**Гаманілі ціха**
**На рачулцы хвалі:**
**— Свой блакіт вясёлы**
**Мы падаравалі.**

**Муравей азваўся**
**І лужок тым часам:**
**— І я для вясёлкі**
**Не шкадую красак.**

**І сказаць нарэшце**
**Сонца захацела:**
**— Без мяне б вясёлка**
**Так не зіхацела.**



## Папярэджанне

**Аднакласніцам-сяброўкам**
**Гаварыла Ніна:**
**— У наш дом вы не заходзьце,**
**Хворы каранцінам.**



## Трывога

**Закрычаў Міколка маці**
**Голасам трывогі:**
**— Глянь, аб нашы градкі певень**
**Выцірае ногі.**



# У нас ёсць свае словы

***Вясной 1944 года я быў пасланы рэдактарам нашай армейскай газеты з Паўночна-Заходняга фронту ў Маскву. Зрабіў справы, пабачыўся з хлопцамі, якія мне сказалі: «Цябе прасіў зайсці Кузьма Чорны». У канцы дня забег да Мікалая Карлавіча. Горача паздароўкаліся, са смакам пагаварылі...***

***Мне сярод іншага запомнілася скарга Кузьмы Чорнага на псаванне беларускай мовы, якую рабілі машыністкі-перакладчыцы з рускай. Рабілі звычайную «кальку», «каб бліжэй было да рускай мовы». Слова «мерзавцы» перакалькавалі на «мярзотнікі». «Што, яны мерзнуць?» — пытаўся Чорны. Ёсць добрыя беларускія словы: «нягоднік», «агіднік»... Дык не, ім патрэбна, каб словы былі бліжэй да рускіх.***

***А вось другое слова: «самоубийцы». У нас ёсць дакладнае беларускае слова: «самагубцы». Дык зноў зрабілі кальку: «самазабойцы». У Беларусі не было звычкі самому сябе забіваць. Канчалі жыццё ў пятлі, у рэчцы, у калодзежы...***

***Амаль паўвека прайшло з таго часу, калі я сустракаўся з Чорным. А наш вялікі празаік як у ваду глядзеў: на газетных палосах часта мільгаюць сёння і «мярзотнік» і «самазабойца». Штучныя словы. Я не здзіўлюся, калі гэтыя словы будуць друкаваць і акадэмічныя слоўнікі.***

***Нядаўна на тэлеўроку «Творчасць Кандрата Крапівы» кандыдат навук з апломбам гаварыў: «Крапіва выкрывае мярзотніка...»***

***Пімен ПАНЧАНКА, народны паэт Беларусі.***

# *Дэтэктывы па-беларуску*

Чытацкая цікаўнасць да твораў дэтэктыўнай літаратуры самая вялікая. З імі раней на роўных спаборнічала хіба фантастыка, але і яна зараз саступіла на другі план. Людзі надзвычай занепакоены сучаснасцю, асабліва рэзкім ростам злачыннасці. Дэтэктывы чытаюць у часе адпачынку, у электрычках, а той-сёй, у каго моцная нервовая сістэма, дазваляе сабе нават перад сном «праглынуць» які востры сюжэт. Таму вельмі важная не толькі мастацкая і эстэтычная якасць твораў (немалую шкоду маральнаму выхаванню, асабліва падлеткаў, наносяць так званыя «жорсткія» і «чорныя» дэтэктывы), але і мова, на якой яны выдаюцца. На жаль, нашы камерцыйныя выдавецтвы (той жа «Эрыдан») у пагоні за звышпрыбыткам выпускаюць дэтэктыўную прадукцыю выключна па-расійску. Хаця, каб выдаўцы трохі спрыялі нацыянальнаму Адраджэнню і развіццю «аўтаматыкі» ўжывання беларускай мовы, яны б не паводзілі сябе так чэрства і па сутнасці недальнабачна.

У гэтым сэнсе станоўча адрозніваецца ад сваіх канкурэнтаў выдавецтва «Мастацкая літаратура». Выпуск твораў дэтэктыўнага жанру па-беларуску становіцца тут не выпадковасцю, а пастаяннай практыкай. Вось і нядаўна яно выпусціла чарговую такую кнігу — зборнік аповесцей аднаго з вядучых у рэспубліцы аўтараў дэтэктыўнай прозы Мікалая Чаргінца — «Тайнік у цёхім завулку». Яшчэ раз пераконваешся, дарэчы, знаёмячыся з гэтым выданнем, наколькі важна для чытача, хто выпускае кнігу — група аматараў, якая прагне хутка зарабіць на бестселеры, ці салідная прафесійная арганізацыя, якая клапоціцца пра ўласны прэстыж, доўгатэрміновы давер пакупніка, а тым самым і пра нас з вамі, «спажыўцоў». Прафесійны рэдактар тут дапамока аўтару найлепшым чынам выправіць літаратурны тэкст, вопытны карэктар з адпаведнай адукацыяй — пазбегнуць граматычных памылак.

Адзначым тут і факт, які сведчыць пра ўзрастанне псіхалагічных настрояў у грамадскасці на карысць беларускасці: рускамоўныя літаратары, у якіх, здавалася б, няма і зараз ячшэ ніякіх праблем з чытачом, пачынаюць адзін за другім звяртацца да беларускай мовы, хоць для майстра слова, які дзесяцігоддзі, магчыма, пісаў па-расійску, гэта справа надзвычай складаная. Упершыню на беларускай мове выйшла ў свет і гэтая кніга Мікалая Чаргінца. Прадмову да яе напісаў Іван Чыгрынаў. «Калі зацікаўлена знаёмішся з творамі М. Чаргінца, — адзначае ён, — адчуваеш іх праўдзівасць і гранічную, калі можна так сказаць, натуральнасць аповяду. Гэта не дэтэктыўны жанр у звыклым сэнсе яго разумення. Як мне здаецца, гэта сапраўдная проза, якая вобразнай сістэмаю сваёй заклікана аказваць дабратворны ўплыў на чытача. Хоць, відома, той «асаблівы зрэз рэальнага жыцця», які вызначае дэтэктыўны жанр, тут таксама відавочна прысутнічае... І яшчэ адна асаблівасць — заўсёды адчуваюцца гуманныя адносіны да чалавека».

**Ул. ЧУБКОЎ.**

# Хопіць карыстацца нашай добразычлівасцю!

З гісторыі вядома, што гублялі ўласную свабоду і нацыянальную незалежнасць не толькі народы, слабыя фізічна, але і тыя, хто праяўляў залішнюю добразычлівасць да суседзяў. Вось як беларусы. Колькі нацярпеліся ды згубілі лепшых сваіх сыноў і дачок! А цяпер зноў нам дзьмуць у вушы «інтэрнацыяналісты» гэтак званыя: вы ж добранькія, вы ж працалюбівыя ды талерантныя. Дзяржаўную незалежнасць вам? Ды ад яе ж толькі лішні клопат. Мова свая? Дык вы ж славяне. Вось мне нават гэты ліст у рэдакцыю даводзіцца пісаць на расійскай мове, бо так навучаны. Але ў гэты крытычны для маёй радзімы час я абвяшчаю, што гатовы (і такіх тысячы і тысячы!) усімі сродкамі змагацца за незалежнасць шматпакутнага беларускага народа, у тым ліку за яго мову. Афіцыйнае ўвядзенне двухмоўя будзе азначаць замах на нацыю, і ўпэўнены — беларусы гэтага не пацерпяць, у тым ліку і падобныя мне, рускамоўныя.

**Аляксандр ВАСІЛЬЕЎ.**
**г. Навапалацк.**

## ПРАГРАМА
## святкавання 75-ай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі

| | | |
|---|---|---|
| 9—25 сакавіка 1993 г. | | Ушанаванне памяці дзеячаў БНР і змагароў за незалежнасць Беларусі. |
| 19 сакавіка | 17.00 | Дом літаратара. Навуковая Акадэмія. |
| 21 сакавіка | 11.00 | Менск. Пляц Незалежнасці — праспект Ф. Скарыны — сквер Янкі Купалы. Марш БЗВ «За незалежнасць і дэмакратыю». Маніфестацыя і ўрачыстае шэсце дэмакратычных сілаў *. |
| | 12.00— 14.00 | Сквер Янкі Купалы, культурная праграма. |
| 23 сакавіка | 17.00 | Адкрыццё выставы ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. |
| 24 сакавіка | 17.00 | Менск. Палац мастацтва. Адкрыццё выставы «Адраджэнне-93» творчай суполкі «Пагоня» Саюза мастакоў Беларусі. |
| 25 сакавіка | | Беларусь, замежжа. Урачыстыя набажэнствы ў храмах усіх хрысціянскіх канфесіяў. |
| | 14.00 | Адкрыццё мемарыяльнай дошкі на доме № 9 па вул. Валадарскага (братоў Луцкевічаў) у гонар абвяшчэння незалежнасці БНР. |
| | 19.00 | Менск. Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Урачысты сход грамадскасці і святочны канцэрт. |
| 27 сакавіка | | Вільня. Адкрыццё намагільнага помніка братам Луцкевічам на могілках Росы. |
| Красавік — травень | | Паездка дэлегацыі Беларусі ў Прагу. Падзяка ураду і народу Чэхіі за прытулак беларускай палітычнай эміграцыі кіраўніцтва БНР. Ушанаванне памяці дзеячаў БНР, прадстаўнікоў палітычнай і культурнай эміграцыі Беларусі, пахаваных на могілках Прагі. |

**Арганізацыйны камітэт па святкаванні 75-ай гадавіны ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі**

* Удзельнікі канферэнцыі — прадстаўнікі палітычных партыяў, рухаў, грамадскіх і культурных арганізацыяў, а таксама дэлегацыі з іншых гарадоў і мястэчак — ідуць пад уласнай і мясцовай сімволікай (сцяг, эмблема руху ці партыі, герб горада). Збор удзельнікаў маніфестацыі на пл. Незалежнасці а 10.30.

# НЯ ХЛЕБАМ АДЗІНЫМ...

*Спавешчанне Рэспубліканскай творчай суполкі «Пагоня» прафесійных беларускіх мастакоў і мастацтвазнаўцаў*

Вось ужо трэці год дзейнічае творчая суполка «Пагоня», у якую ўваходзяць сябры Саюза мастакоў Беларусі — жывапісцы, графікі, скульптары, майстры дэкаратыўна-ўжытковага і народнага мастацтва, мастацтвазнаўцы. Вытокі гэтага згуртавання ідуць ад сярэдзіны 70-ых гадоў. Менавіта тады, у глухія для нашай культуры часы, група мастакоў, якая складае сёння асноўную частку суполкі, пачала далучаць беларускага гледача да родных каранёў, да гісторыі Бацькаўшчыны, ладзячы гістарычна-мемарыяльныя мастацкія выставы, прысвечаныя дзеячам гісторыі і культуры Беларусі. На палотнах і аркушах і ў скульптурах ўзнікалі слаўтыя постаці Рагнеды і Ефрасінні, Міколы Гусоўскага і Цёткі, Францішка Скарыны і Кастуся Каліноўскага. Тыя выставы, спадзяёмся, спрыялі абуджэнню самасвядомасці беларусаў, адказвалі на пытанне, хто мы і адкуль, куды ідзём.

Не так проста было спавядаць беларушчыну ў тыя часы. Былі і выклікі ў КДБ ды аддзелы ЦК КПБ, і разборкі на партсходах Саюза мастакоў, і публічнае шальмаванне.

Сёння сябры суполкі, як і раней, працуюць на адраджэнне Бацькаўшчыны. Калі ў 1991 годзе ў Вярхоўным Савеце Беларусі ставілася пытанне пра беларускую дзяржаўную сімволіку, сябры суполкі арганізавалі ў сценах Дома Урада гістарычна-дакументальную выставу, прысвечаную нацыянальным гістарычным сімвалам — бел-чырвона-беламу сцягу і гербу «Пагоня». Яны ж распрацавалі эталон герба Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Вярхоўным Саветам.

Суполка «Пагоня» наладзіла шэраг мастацкіх выставаў — у менскім Палацы мастацтва, у Беларускім музеі ў Гайнаўцы на Беласточчыне, у 1992 годзе адкрывала сваёю выставаю тыдзень беларускай культуры ў Вільні, рэгулярна робіць тэматычныя мастацкія экспазіцыі ў Доме літаратара. Цяпер сябры суполкі рыхтуюць мастацка-публіцыстычную выставу «Адраджэнне-93», якая адбудзецца ў Палацы мастацтва 24 сакавіка і будзе прысвечана слаўнай даце — 75-ым угодкам з дня абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Плануецца і надалей шэраг выставаў і культурна-асветных мерапрыемстваў, мэта якіх — пашыраць сярод гледачоў ідэалы незалежнасці Бацькаўшчыны, яе Адраджэння.

Уся гэтая праца суполкі рабілася без аніякай фінансавай падтрымкі з боку дзяржаўных структур і Саюза мастакоў, на сціплыя складкі сяброў суполкі. Зважаючы на цяжкія матэрыяльныя ўмовы, якія перажывае наша культура і немагчымасць у сувязі з гэтым здзяйсняць творчыя і культурна-грамадскія праекты суполкі, мы звяртаемся да кіраўнікоў арганізацый і прадпрыемстваў, фірмаў, прыватных асоб матэрыяльна дапамагчы Рэспубліканскай творчай суполцы «Пагоня» ў ажыццяўленні яе дзейнасці, і ў першую чаргу — у арганізацыі выставы «Адраджэнне-93», прысвечанай 75-ым угодкам БНР.

Будзем шчыра ўдзячныя тым, хто нас падтрымае.

Разліковы рахунак Рэспубліканскай мастацкай суполкі «Пагоня» 609097 у Цэнтральным аддзяленні Прамбудбанка г. Мінска, код 362. Тэлефоны для даведак: 24-02-95, 26-05-59.

**Рада Рэспубліканскай творчай суполкі «Пагоня» прафесійных беларускіх мастакоў і мастацтвазнаўцаў.**

## ДА ВЕДАМА ЧЛЕНАЎ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

26—27 сакавіка г.г. у Менску (Дом літаратара, Фрунзе, 5) адбудзецца III з'езд ТБМ.

Запрашаем Вас прыняць удзел у рабоце з'езда. Пачатак а 10-ай гадзіне раніцы. Рэгістрацыя з 9.00.

Іншагароднiх просім паведаміць аб магчымасці прыезду ў Менск, а таксама аб зацікаўленасці ў гасцініцы.

Камандзіровачныя расходы — за кошт камандзіруючых арганізацый.

Тэлефоны для даведак: 33-25-11, 33-13-52.

**АРГКАМІТЭТ.**

# Народная лякарня

*(Працяг. Пачатак у №№ 9, 10).*

## Д. ДЖАРВІС: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына

Тып нервовай сістэмы нованароджаны атрымлівае ад бацькоў. Ад здаровых бацькоў, як правіла, нараджаюцца здаровыя дзеці. Аднак трэба ведаць, што многае залежыць ад якасці харчавання будучай маці. Недастаткова пажыўнае і няправільнае харчаванне можа адмоўна адбіцца на развіцці плода, парушыць самую добрую спадчынную аснову нервовай сістэмы дзіцяці.

Існуюць два тыпы нервовай сістэмы — сімпатычны і парасімпатычны. Яны інервіруюць сэрца, пасылаючы яму імпульсы рознага, процілеглага характару. Сімпатычны тып садзейнічае высокаму сардэчнаму рытму, парасімпатычны — нізкаму сардэчнаму рытму. Калі вы адносіцеся да катэгорыі людзей, у якіх ад нараджэння ўстанавіўся высокі сардэчны рытм, у народнай медыцыне вы знойдзеце рэкамендацыі, як стварыць для вашага арганізма адпаведныя ўмовы, каб сябе добра пачуваць. Гэта спосабы змянення рытму сэрца ад высокага да нізкага, што дапамагае адаптавацца ва ўмовах рэзкай змены надвор'я або іншых фактараў навакольнага асяроддзя. У гэтым сэнсе велізарную ролю адыгрывае зноў жа рэжым харчавання, якасць ежы. Неабходна адмовіцца ад тых прадуктаў, якія выклікаюць шчолачную рэакцыю мачы. Такая рэакцыя назіраецца пры пачашчаным сэрцабіцці. Вам не належыць есці пшанічныя крупы і вырабы з пшаніцы, белы хлеб, замест іх рэкамендуецца кукурузны хлеб і вырабы з кукурузы. Кукурузы трэба есці як мага больш. Замест цукру — ужывайце мёд. Апельсіны, грэйпфруты і іх сокі выклікаюць непажаданую шчолачную рэакцыю мачы. Замест іх ужывайце вінаград або вінаградны сок, яблыкі, журавіны. Адвучвайце сябе ад мяса і прывыкайце да рыбы і іншых марскіх прадуктаў. Дары акіяна, што ідуць у ежу, дзейнічаюць заспакаяльна. Штодзённа трэба ўжываць пэўную колькасць кіслаты, каб нейтралізаваць шчолачную рэакцыю крыві пры пачашчаным пульсе. Перад снеданнем выпіце шклянку цёплай вады з дзвюма чайнымі лыжачкамі яблычнага воцату. Памятайце, што цяпло заспакойвае арганізм. Увогуле, трэба ўстрымлівацца ад халоднага піцця. Піце вадкасць у цёплым стане. Пры высокім сардэчным рытме можна рознымі спосабамі сагравацьцела: прымаць сонечныя ванны, нажныя ванны ў дастаткова гарачай вадзе, выкарыстоўваць электраприборы.

Выпрабоўваючы метады народнай медыцыны, якія садзейнічаюць змяненню рытмаў сэрца, з часам вы знойдзеце тыя, якія адпавядаюць вам.

## ПАДЗЯКА

*Дазвольце праз Вашу газету выказаць шчырую падзяку народнаму дэпутату Беларусі сп. Лявону ДЗЕЙКУ за нечаканазова ахвяраваныя ім бібліятэцы Беларускага гуманітарнага ліцэя вельмі патрэбныя беларускія кнігі.*

*Адміністрацыя ліцэя пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры.*

## На хвалях БТ

**17 САКАВІКА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
21.00. Панарама.
23.10. НІКа.

**18 САКАВІКА**

16.30. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. XI клас. Сучасная беларуская паэзія.
17.10. Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
20.25. Тыдзень беларускага ўрада.
22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
23.55. НІКа.

**19 САКАВІКА**

21.00. Панарама.
23.15. НІКа.

**20 САКАВІКА**

10.00. Паказвае Гродна. Пamежжа. Фестываль беларускай песні ў Польшчы.
14.45. Роднае слова. Тэлечасопіс.
18.20. Публіцыстычна-інфармацыйны канал для падлеткаў.
21.00. Панарама.

**21 САКАВІКА**

12.55. Топ-агент. Музычна-забаўляльная праграма.
17.30. Студыя «Тэлесябрына». «Сіндром разбурэння».
20.00. Панарама.

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны. Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83. Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8507 паасобнікаў. Зак. 263.

Падпісана ў друк 15.03.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.